# БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ

26

Выдаюць: ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ Ў АМЭРЫЦЫ
САЮЗ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ МОЛАДЗІ



КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ ў паўстаньні 1863 г. *П. Сяргіевіч.*

ТРАВЕНЬ
1967
MAY

# Byelorussian Youth

Published by: BYELORUSSIAN YOUTH ASSOCIATION OF AMERICA
BYELORUSSIAN-AMERICAN YOUTH ASSOCIATION

# ЗЬМЕСТ



## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ :

**ЗША :**

Miss Helen Kononczuk
1828 West 48th St., Cleveland 2, Ohio.
Mr.M.Sienka
24 Herman St., South River,N.J.
Mr.M.Kuczura
1217 N.Wolcott Ave., Chicago 22, Illinois
Miss Lena Sazych
736 Lakepointe Ave.
Grosse Pointe Park 30, Michigan

**Канада :**

Mr.J.Pitushka
31 Noble St., Toronto 3, Ontario

Mr.U.Baranovich
111 Lindsey Ave., Toronto, Ontario

Miss M.Ignatau
7808 Birnam St., Montreal, Quebec

**Ангельшчына :**

Mr.A.Laszuk
97 Moore Park Rd.– London SW 6

**Бэльгія :**

Rev. A.Smarscok
167 Overwinningstraat, Willabroek

**Аўстралія :**

Mr.M.Nikan
14 Steel St., Spotswood, Victoria
Mr.W.Akavity
80 Tapleys Hill Rd., Royal Park, S.A.
Mr.A.Vasilenia
39 Edwin St., Croydon, N.S.W.

НАШ АДРЫС: BYELORUSSIAN YOUTH
Route 1, Box 281B – Matawan, New Jersey

ГАДАВАЯ ПАДПІСКА ў ЗША й Канадзе – 3 дал.
Грашовыя пераказы выстаўляць на:
**"BYELORUSSIAN YOUTH"**

Паасобны нумар – 75 цэнтаў.

**A non-profit publication.**
*Text in English and Byelorussian*
*Issued four times a year.*



# БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ

КВАРТАЛЬНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАГА МАЛАДОГА ПАКАЛЕНЬНЯ

Выдаюць: Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы
Саюз Беларуска-Амэрыканскае Моладзі

Год выданьня 9. ТРАВЕНЬ 1967 г. № 26

## 2-гая Спартовая Сустрэча Беларускай Моладзі

адбылася ў сыботу, 30-га ліпеня 1966 г. на тэрыторыі беларускага летняга рэсорту Бэлер-Менск.

У сустрэчы ўзяла ўдзел моладзь з усходніх штатаў(Ню Ёрк і Ню Джэрзі), а таксама далейшыя госьці з Кліўленду(штат Огаё). Былі рэпрэзэнтаваныя абедзьве галоўныя маладняцкія арганізацыі – ЗБМА й СБАМ.

Вельмі прыемна было заценіць, што асабліва актыўны ўдзел у спартовай сустрэчы прынялі *наймалодшыя* – тыя, што толькі ўступілі ў маладняцкія арганізацыі, або навет яшчэ да іх не належаць.

Ніжэй падаем вынікі спаборніцтваў у *плаваньні й лёгкай атлетыцы:*

*ПЛАВАНЬНЕ(200 футаў) :*

1. *Сяргей Чыгіровіч(Саўт Рывэр)*
2. *Мікалай Вайцяхоўскі(Ню Брансвік)*
3. *Уладзімер Палонскі(Кліўленд)*

*КІДАНЬНЕ КУЛІ :*

1. *Расьціслаў Войтэнка(Ню Брансвік)* – 47 фт. 11 інч.
2. *Уладзімер Палонскі(Кліўленд)* – 42 фт.
3. *Язэп Верасаў(Саўт Рывэр)* – 39 фт. 7 інч.

*СКОК У ВЫШЫНЮ(хлапцы) :*

1. *Язэп Верасаў(Саўт Рывэр)* – 4 фт. 9 інч. *(наймейш спробаў)*
2. *Мікалай Вайцяхоўскі(Ню Брансвік)* – 4 фт. 9 інч.



*Дзявочая валібольная каманда із Саўт Рывэру: І. Цупрык, Л. Шчорс, В. Арцюшэнка, Л. Гурын, М. Сіцько, А. Лосік, А. Харавец.*

3. *Пятро Ляхноўскі(Саўт Рывэр)* – 4 фт. 9 інч.

*СКОК У ВЫШЫНЮ(дзяўчаты) :*

1. *Галіна Кажура(Ню Брансвік)* – 4 фт. 4 інч.
2. *Галіна Тумаш(Ню Ёрк)* – 4 фт. 4 інч.
3. *Люба Галаватая(Кліўленд)* – 4 фт.

*СКОК У ДАЛЬ :*

1. *Пятро Ляхноўскі(Саўт Рывэр)* – 15 фт. 7 інч.
2. *Мікалай Вайцяхоўскі(Ню Брансвік)* – 14 фт. 10 інч.
3. *Сяргей Чыгіровіч(Саўт Рывэр)* – 14 фт. 8 інч.

Асабліва цікавае было спаборніцтва дзяўчат у скоку ў вышыню. Было аж адзінаццаць удзельніцаў і сярод іх найлепшымі аказаліся наймалодшыя – *Галіна Кажура* й *Галіна Тумаш*.

Сярод малодшых хлапцоў паказаў немалыя спартовыя здольнасьці *Мікалай Вайцяхоўскі*, здабываючы добрыя вынікі амаль у усіх спаборніцтвах.

Валібольны турнір мужчынскіх камандаў даволі лёгка выйграў больш спрактыкаваны *"Нёман"* із Саўт Рывэру. Ніжэй падаем вынікі паасобных гульняў:



*Дзявочая валібольная каманда "ВАСІЛЬКІ" з Кліўленду: К. Каваленка, Л. Галаватая, Л. Міхальчык, М. Каваленка, Г. Кананчук, О. Татарын, З. Каваленка, Г. Шчарбак.*

*Нёман – Ню Ёрк-Ню Брансвік(зборная)* – 15:0, 15:3.
*"Пагоня"Кліўленд – Ню Ёрк-Ню Брансвік* – 15:6, 15:7.
*Нёман – Пагоня*, 15:1, 15:6.

Цікавейшымі былі валібольныя змаганьні дзяўчат. Кліўлендзкія *"Васількі"*, якія летась на гадавым зьезьдзе ЗБМА былі другія, цяпер занялі першае месца, перамогшы папулярную каманду *"Бэлер-Менск"*. Трэйцяе месца занялі маладзенькія дзяўчаты із Саўт Рывэру, якія толькі нядаўна зарганізаваліся й рэгулярна праводзяць трэнінгі пад кіраўніцтвам сябры Г. Арцюшэнкі (мэнаджэра мужчынскай каманды "Нёман"). Нягледзячы на сваю маладосьць і малое дазнаньне, саўтрывэрскія дзяўчаты заўзята змагаліся за кажны мячык, што паказвае прабег паасобных гульняў :

*Кліўленд – Саўт Рывэр*
15:9, 10:15, 15:6.
*Бэлер-Менск – Саўт Рывэр*
15:8, 15:8.
*Кліўленд – Бэлер-Менск*
11:15, 15:11, 15:3.

Адначасна з валіболам адбываліся спаборніцтвы ў пінг-понгу, якія прынесьлі наступныя вынікі:

1. *Васіль Валюкевіч(Кліўленд)*
2. *Сяргей Касьцюк(Саўт Рывэр)*
3. *Янка Запруднік(Ню Ёрк)*

У той-жа дзень, падчас вечарыны, спартоўцы атрымалі прыгожыя ўзнагароды за першае, другое й трэйцяе месца. Таксама адбыліся выбары "Місс Бэлер", якою сталася сяброўка *Яра Тумаш* із Ню Ёрку.

Назаўтрае, у нядзелю, адбылася *нарада* кіраўнікоў спартовых груп, арганізатараў сустрэчы й паасобных удзельнікаў. Было пастаноўлена ладзіць спартовыя сустрэчы *што году*, заўсёды ў вапошні канцатыдзень ліпеня. Наступная сустрэча мае быць зноў на тэрыторыі "Бэлер-Менску".

Быў абраны адмысловы *спартовы камітэт*, які мае працаваць над прыгатовай наступнае сустрэчы(рэлямай, вербаваньнем і падрыхтоўкай удзельнікаў). У гэты камітэт увайшлі наступныя асобы : *Г. Арцюшэнка, У. Дунец, А. Лысюк, Ю. Станкевіч, І. Муха.*



*Скок у вышыню – хлапцы. Скача М. ВАЙЦЯХОЎСКІ.*





*Скок у вышыню – дзяўчаты. Скача А. ВОЛЯН.*

Наагул 2-ая Спартовая Сустрэча прайшла вельмі прыемна й спраўна, – дзякуючы энтузіязму ўдзельнікаў ды добрай арганізацыі спаборніцтваў. Тут належыць падзякаваць асобам, адказным за розныя дзялянкі спорту : *Г.Арцюшэнку*(валібол), *А.Лысюку*(пінг-понг), і *Ю. Станкевічу*(лёгкая атлетыка). Апрача таго пры праводжаньні спаборніцтваў шмат памаглі "старшыя спартоўцы" – сябры *М.Сенька, В. Цярпіцкі* й *І.Муха.*

# ХРОНІКА

## Кліўленд( Огаё )

– 23-га жнівеня 1966 г. кіраўніцтва аддзелу ЗБМА ладзіла разьвітальны абед для сябры *Янкі Лук'янчыка*, які адыходзіў у В'етнам. Акрамя ягоных сяброў і сябровак Беларусаў, на абедзе было шмат знаёмых іншых нацыянальнасьцяў. Таксама былі прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў у Кліўлендзе. Перад абедам а. Аляксандар адслужыў малебен у БАПЦаркве. Падчас абеду прамаўлялі : кіраўнік моладзі У. Дунец, а. А.Крыт, В. Радзюк, С. Карніловіч, К. Кіслы і Ю. Гасьцееў. Таксама выступалі з кароткімі разьвітальнымі прамовамі й малодшыя(праўда, па ангельску). Усе жадалі шчасьця, сілы й вытрываласьці ў змаганьні з тым ворагам, чырвоны бот якога топча й нашу родную беларускую зямлю. Наша моладзь у амэрыканскай арміі змагалася з агрэсарам у Карэі, а цяпер змагаецца ў В'етнаме; трэба спадзявацца, што надыйдзе той, запраўды змагарны, радасны дзень, калі ня толькі беларускія жаўнеры амэрыканскай арміі, але й жаўнеры, што ўжо змагаліся з Маскалямі, пойдуць у той апошні бой за вызваленьне сваёй Бацькаўшчыны, Маці-Беларусі.

– 16, 17, 18-га верасьня 1966 г. моладзь ладзіла выставу ў гатэлі Сэтлер з нагоды *"Дня Новых Грамадзян"*. Беларуская выстава была запраўды адна зь лепшых і зацікавіла гледачоў. Моладзь усе тры дні пільна дзяжурыла пры выставе. Старанна адказвала на пытаньні – зь некаторымі даводзілася навет і спрачацца. На другі дзень, у суботу, адбыўся баль. На беларускім стале, у прыгожым букеце, стаялі беларускі й амэрыканскі сьцяжкі, а пры сцэне, дзе адбываліся цэрэмоніі, стаяў між іншымі вялікі беларускі сьцяг. На пачатку балю адбыўся марш, у якім прыймалі ўдзел усе ў нацыянальных строях. Пры адчыненьні выставы й на балю быў таксама староста места Кліўленду. На трэйці дзень, у нядзелю, танцавальны гурток выступаў з народнымі танцамі. За пазычэньне экспанатаў належыцца вялікая падзяка *сп. М.Шусту, сп-ні К.Калядзе, а.А. Крыту* й іншым, што спрычыніліся да наладжаньня такое прыгожае выставы.

– У нядзелю 8-га студзеня была наладжаная Беларускай Сыботняй Школай у Кліўлендзе ялінка для дзяцей.

Ужо а 3-цяй гадзіне папаўдні дзеці, некаторыя ў нацыянальнай вопратцы, зь вялікай нецярплівасьцяй чакалі, калі пачнецца праграма й прыйдзе Дзед Мароз. Неўзабаве кіраўнік мастацкае часткі, сп. К. Кіслы, пачаў праграму й прывітаў Дзеда Мароза. Дзед Мароз падыйшоў да дзетак, што ўжо былі выстраіўшыся на сцэне, ды сказаў, што ён хоча пабачыць, чаго дзеткі навучыліся ў Беларускай Сыботняй Школе. Тады школьны хор пад кіраўніцтвам сп. К.Кіслага выканаў чатыры калядныя песьні : *"Зорачкі", "Дуду", "Ой, калядачкі"* й *"Неба і зямля"*. Танцавальны гурток пад кіраўніцтвам сп. У.Дунца праскакаў два народныя танцы : *"Мікіту"* й *"Юрачку"*. Вучань *Віця Міраеўскі* выканаў на акардыёне беларускі народны танец *"Янка"*; ён-жа падыгрываў да танцаў. Шмат вучняў выступала з прыгожымі каляднымі вершамі.

Пасьля мастацкае часткі Дзед раздаў калядныя падаркі.

– 28 і 29 студзеня адбыўся ў Кліўлендзе чарговы, 18-ты Міжнародны Фэстываль. Сёлета прыймалі ўдзел у фэстывалі 27 нацыянальнасьцяў. Найвялікшая заля – *"Мюзік Гол"*, абодва дні была перапоўненая. Ад Беларусаў у першы дзень выступала танцавальная група ЗБМА, а на

*( Працяг на бал. 7 )*

## СЛОВА ДА ЧЫТАЧОЎ

Часапіс "Беларуская Моладзь" выходзіць ужо блізу 8 год – праўда, апошнім часам даволі нерэгулярна. Мы – рэдакцыя часапісу, хочам сяньня разгледзець прычыны гэтае нерэгулярнасьці ды падаць прапановы для наладжаньня спраўнейшае выдавецкае працы.

У сваіх сьціплых пачатках, у 1959-тым годзе, часапіс у васноўным адлюстроўваў дзейнасьць і дасягненьні беларускае моладзі ў вольным сьвеце, і таксама імкнуўся падаць гэтай моладзі цікавыя эпізоды зь гісторыі нашага народу, пераважна ў форме апавяданьняў.

У той час яшчэ бальшыня арганізаванае беларускае моладзі свабодна валодала беларускай мовай, як словам, так і ў чытаньні. Бальшыня гэтых хлапцоў і дзяўчат вучылася ў беларускіх школах на эміграцыі ды была ў вагульным азнаёмленая зь беларускай гістарычнай традыцыяй і з традыцыяй нашага вызвольнага руху.

У 60-тых гадох рады гэтае моладзі папоўніліся новымі, малодшымі сябрамі, якія вырасьлі й узгадаваліся ў Амэрыцы. У вялікай бальшыні яны не атрымалі сыстэматычнае навукі беларускае мовы ды наагул беларусаведы ў школах, ды таму для іх часапіс "Беларуская Моладзь" рабіўся ўсё больш недаступным.

Дзелятаго рэдакцыя часапісу паставіла перад сабою новае заданьне – зрабіць часапіс крыніцай ведаў аб Беларусі й беларускім народзе. Пачынаючы ад 7-га нумару, такі матар'ял зь беларусаведы друкуецца пераважна ў ангельскай мове.

Адначасна, беларуская частка зьместу пачынае ўсё больш адлюстроўваць зацікаўленьні й грамадзкія заняткі старэйшае часткі моладзі. Паяўляюцца артыкулы на тэму грамадзкіх дачыненьняў на эміграцыі, аб ролі маладога пакаленьня, больш вартасныя літаратурныя творы. У выніку гэтага разьвіцьця часапіс стаўся даволі папулярны й сярод старэйшага грамадзтва.

Такім парадкам, у гадох 1963-64, зьмест часапісу меў за мэту здаволіць патрэбы 2-х розных сфэраў чытачоў:
– малодшых, якія цікавяцца хронікай свае дзейнасьці ды інфармацыйнымі артыкуламі зь беларусаведы(у ангельскай мове), і
– старэйшых, якія цікавяцца творамі беларускіх пісьменьнікаў і артыкуламі грамадзкага характару.

Тымчасам, як гэта бывае ў кажным грамадзтве, нашая старэйшая моладзь(да якое належаць выдаўцы часапісу), набыўшы жыцьцёвага дазнаньня й стаўшы на ногі эканамічна, пачынае праяўляць ініцыятыву й пераймаць адказныя функцыі ў беларускай грамадзе, як цэласьці – функцыі, не зьвязаныя ўжо з арганізаваньнем моладзі.

Гэтыя новыя абавязкі выдаўцоў часапісу нажаль адбіліся на якасьці рэдакцыйнае працы – на якасьці й ліку цікавых артыкулаў, на самым рэдагаваньні, – ды ўрэшце спрычыніліся да нерэгулярнага выхаду часапісу.

Бяручы на сябе новыя грамадзкія абавязкі, выдаўцы "Беларускае Моладзі" ня мелі намеру пакідаць працы ў галіне ўзгадаваньня й інфармацыі моладзі. Наадварот – сваім удзелам у вагульна-грамадзкім арганізацыйным жыцьці яны стараліся пераканаць старэйшых грамадзян, што праца з новым, беларуска-амэрыканскім пакаленьнем павінна стацца асновай грамадзкае дзейнасьці.

Нашай мэтай было й ёсьць выклікаць у нашым грамадзтве зразуменьне й стварыць сярод яго атмасфэру для больш інтэнсыўнае працы над падрыхтаваньнем нашага новага пакаленьня. Была надзея, што ў такой лепшай атмасфэры можна будзе больш зрабіць у галіне нашае працы – у выдаваньні часапісу, у школьніцтве, у арганізаваньні моладзі.

Нажаль, нашыя намаганьні не далі жаданых вынікаў. Ідэялёгія грамадзкага падзелу, міжгруповая рывалізацыя й узаемны недавер апошнімі гадамі яшчэ мацней укараніліся ў нашым старэйшым грамадзтве й перашкаджаюць яму бачыць і зразумець патрэбу працы для будучыні.

А патрэба такое працы з кажным днём робіцца больш відавочнай. Учарашнія дзеці – цяперашнія сябры ЗБМА або СБАМ, сяньня студыююць на ўнівэрсытэтах, закладаюць новыя сем'і, пачынаюць браць удзел у амэрыканскім культурным, а часта й грамадзкім жыцьці. Колькасна гэтае маладое, беларуска-амэрыканскае пакаленьне хутка здабудзе сярод нас абсалютную бальшыню. Аднак нашае старэйшае арганізаванае грамадзтва не зварачае на іх увагі ды не памагае ім зарганізаваць с в а ю, н о в у ю беларуска-амэрыканскую грамаду.

Таму мы ўважаем, што грамадзкая праца з гэтым новым пакаленьнем, пачатая намі раней, а цяпер крыху занядбаная, мусіць быць ня толькі ўзноўленая, але й узмоцненая – пры ўдзеле большага ліку нашых аднадумцаў, асабліва тых, што належаць да гэтага-ж новага пакаленьня.

Мы ўважаем, што грамадзкія мэты часапісу "Беларуская Моладзь" правільныя. Каб дапяць гэтых амбітных мэтаў – арганізаваць і даць нацыянальнае ўзгадаваньне малодшаму пакаленьню, а таксама быць грамадзкім голасам сярэдняга пакаленьня, трэба толькі прылажыць больш працы й стараньняў, здабыць большы лік актыўных супрацоўнікаў, паставіць выдавецкую працу на вышэйшы ўзровень.

Мы прыйшлі да высънаву, што, каб здаволіць грамадзкія й культурныя патрэбы дзьвюх розных групаў чытачоў – сярэдняга й малодшага пакаленьня, наш часапіс патрабуе р э а р г а н і з а ц ы і. Нам патрэбны а с о б н ы ворган для малодшага пакаленьня, беларускага паходжаньнем і амэрыканскага адукацыяй і паглядамі, ды а с о б н ы для сярэдняга пакаленьня, тых нашых равесьнікаў, якія прынесьлі свой беларускі дух яшчэ з Бацькаўшчыны, а сяньня думаюць і працуюць канструктыўна, для будучыні беларускае этнічнае групы ў вольным сьвеце.

Нам трэба с п э ц ы я л і з а в а ц ц а й удасканаліць нашую працу як у ваднэй, так і ў другой выдавецкай галіне. Адначасна мы мусім знайсьці або падрыхтаваць б о л ь ш с у п р а ц о ў н і к а ў, як сярод малодшага, так і сярод старэйшага й сярэдняга пакаленьня.

Дзелятаго на гэтым, 26-тым нумары, спыняем выдаваньне часапісу "Беларуская Моладзь" у ягонай цяперашняй форме, прыступаем да рэарганізацыі выдавецтва, і спадзяемся, што ў выніку яе здолеем выканаць пастаўленыя перад намі нацыянальныя й грамадзкія заданьні.

---

У В А Г А! Моладзь...

У В А Г А! Спартоўцы...

3-цяя СПАРТОВАЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ адбудзецца 29-30 ліпеня 1967 г., на рэсорце Бэлер-Менск.

Прадбачыцца наступная праграма Сустрэчы:

Сыбота, 29-га ліпеня –

1:00 папаўдні – *Лёгкая атлетыка*: Кіданьне кулі, скок у вышыню(хлапцы й дзяўчаты), скок у даль(хлапцы), штафэтны бег(хлапцы), плаваньне(хлапцы й дзяўчаты).

4:00 папаўдні – *Валібол* (хлапцы й дзяўчаты).

9:00 ўвечары – *Вечарына*, выбары "Місс Спорту", разданьне ўзнагародаў.

Нядзеля, 30-га ліпеня –

10:00 нараніцы – *Пінгпонг* (хлапцы й дзяўчаты).

2:00 папаўдні – *Банкет* і заканчэньне Сустрэчы.

Жадаючых узяць удзел у спартовых спаборніцтвах Сустрэчы просім зьвярнуцца да наступных сяброў Камітэту Спартовых Сустрэчаў:

у Ню Джэрзі: *да сп. Г. Арцюшэнкі*
*сп. А. Лысюка*,
у Ню Ёрку: *да сп. І. Мухі*,
*сп. Ю. Станкевіча*,
у Клічўлендзе: *да сп. У. Дунца*.

Дык да пабачаньня ў ліпені!

Камітэт Спартовых Сустрэчаў Беларускае Моладзі.

### Альманах ЗБМА

Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы (ЗБМА) прыступіла да апрацаваньня Альманаху, які мае выйсьці яшчэ сёлета, з нагоды 15-цігодзьдзя арганізацыі.

У альманаху плянуецца зьмясьціць наступнае:

1) Кароткая інфармацыя аб арганізацыі.
2) Інфармацыя аб аддзелах ЗБМА.
3) Дзейнасьць ЗБМА: мастацкая самадзейнасьць, спорт, таварыскае жыцьцё, нацыянальнае ўзгадаваньне, выдавецтва і інш.

Будуць таксама зьмешчаныя здымкі ўсіх цяперашніх і былых сяброў ЗБМА.

Кіраўніцтва ЗБМА зьбірае цяпер матар'ялы да зьмяшчэньня ў альманаху – як фатаграфіі, так і апісаньні мінулае дзейнасьці – зьездаў, экскурсіяў, спартовых сустрэчаў і пад.

Матар'ял да зьмяшчэньня ў альманаху прыймаецца *да 30-га траўня 1967 г.* Просім перасылаць яго на адрыс кіраўніка ЗБМА, сп. А. Лысюка:

Mr. G. Lysiuk
Route 1, Box 281B, Matawan, N. J.

Увесь надасланы матар'ял будзе зьвернены пасьля друку альманаху.

**XIII-ты Гадавы Зьезд Згуртаваньня Беларускае Моладзі(ЗБМА) адбудзецца ў сыботу, 29-тага ліпеня 1967 г., на рэсорце Бэлер-Менск.**



*Танцавальны гурток беларускае моладзі з Таронта й Ашавы(Канада), пад кіраўніцтвам сп. Б. Кіркі.*

## ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!

Калі даўней Беларус прыносіў свой уклад у навуку й культуру, або змагаўся за вызваленьне бацькаўшчыны, дык заўсёды на помач паклікаў роднае друкаванае слова. Сёлета ёсьць 450-тая гадавіна выхаду ў сьвет беларускай біблії нашага слаўнага першадрукара Францішка Скарыны, што кнігамі "для люду паспалітага" пачаў навукова-культурны прагрэс на Беларусі і Ўсходняй Эўропе. Прыгадайце таксама "Мужыцкую Праўду" несьмяротнага Кастуся Каліноўскага, "Нашу Долю" й "Нашу Ніву" дый заложаную нашымі студэнтамі ў 1906 г. ў Пецярбурзе выдавецкую супалку "Загляне сонца і ў наша ваконца".

Падумайце, як быў-бы спозьнены навукова-культурны прагрэс ува Ўсходняй Эўропе, калі-б ня друкі Скарыны. А ці магчыма было-б адраджэньне беларускага народу бяз "Нашае Нівы"?

Ясна чаму маскоўскія каланізатары нашай бацькаўшчыны не даюць сяньня волі беларускаму друкаванаму слову. Мора расейшчыны плыве зь беларускіх друкарняў а сьвятыні навукі сталіся кузьнямі народнага ачмурэньня. А які-ж уклад змагла-б даць у вызвольнае змаганьне й нашу культуру беларуская эміграцыя бяз кніжак і газэтаў у роднай мове?

Каб хоць у сьціплых рамках рэгулярна выдаваць свае кнігі, кружэлкі родных песьняў і інш., сёлета ў студзені паўстаў у Тароньце Выдавецка-Мастацкі Клюб "ПАГОНЯ". Яшчэ да афармленьня гуртка пад фірмай "Пагоні" выйшла Акулава кніга "Дзярлівая Птушка" й кружэлка цудоўных песьняў у выкананьні Забэйды-Суміцкага.

Клюб "Пагоня" лічыць на Ваша зразуменьне й падтрымку. Гэтта й заклікаем Вас на помач. Калі бедныя й паўгалодныя беларускія студэнты ў Пецярбурзе паўстагодзьдзя таму назад змаглі так шмат выдаць кніжак, дык як-жа застацца могуць ззаду нашыя "багатыя Амэрыканцы"?

Каб быць сябрам "Пагоні", трэба даць аднаразова *50 дал.* Усе выданьні клюбу кажны сябра будзе атрымліваць задарма. Прыходны капітал за продаж кніжак ці кружэлак, зь лятарэяў і інш. будзе заставацца ў "Пагоні", каб была сталая фінансавая база для выданьняў у будучыні.

Просім Вас, Паважаныя Суродзічы, адгукнуцца неадкладна. Грошы ды эвэнтуальныя пытаньні й пажаданьні накіроўваць на пададзены адрас.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

*А. Маркевіч* – сакратар. *К. Акула* – старшыня.

PAHONIA
Byelorussian-Canadian Publishers & Art Club
524-28 St. Clarens Ave. , Toronto 4, Ontario
C a n a d a.

## БЕЛАРУСЫ Ў СЬВЕЦЕ

**Др. Аўген Вярбіцкі** браў удзел у навуковай канфэрэнцыі ў справе *"Ужыцьця ядзернай энэргіі для прэзэрвацыі яды"**. Канфэрэнцыя адбылася 2-3 лютага ў Oak Ridge, Tenn., пры ўдзеле больш за 300 дэлегатаў ад прамысловасьці, дзяржаўных і навуковых установаў. Др. Вярбіцкі, ведамы навуковец у галіне емінгай тэхналёгіі, прачытаў даклад аб прэзэрвацыі мяса й мясных прадуктаў пры дапамозе ядзерных праменьняў.

* "Preservation of food by use of nuclear irradiation".



## ХРОНІКА

*(Працяг з бал. 3)*

другі дзень – малыя танцоры Беларускае Сыботняе Школы. Абодвы выступленьні былі на ўзроўні, – асабліва добра спраўляліся вучні Сыботняе Школы. Перад фэстывалем і пасьля яго былі зьмешчаныя ў мясцовых газэтах фотаздымкі абедзьвюх беларускіх групаў.

– У пятніцу 31-га сакавіка, аддзел славянскіх моваў пры Western Reserve University арганізаваў вечар дэклямацыяў, у якім прынялі ўдзел усе славянскія народы. Ад Беларусаў выступалі вучні Беларускае Сыботняе Школы й сябры ЗБМА. З дэклямацыяў у беларускай мове заняла першае месца *Галіна Кананчук*, другое – *Васіль Каваленка* і трэйцяе – *Рагнеда Дунец*. Судзьдзямі ад Беларусаў былі К. Кіслы, У. Дунец і К. Калоша. Найлепш былі падгатаваныя й дэклямавалі Украінцы й Славінцы. Ад 10-тае гадзіны раніцы да 10-тае вечара была выстава. Беларускую выставу наладзіла моладзь, і яна была адна зь цікавейшых. Студэнты, прафэсары й розныя наведвальнікі зь вялікім зацікаўленьнем аглядалі беларускія экспанаты й давалі шмат пытаньняў. Пры выставе дзяжурылі *Галіна Кананчук, Ева Дунец і Рагнеда Дунец*. На выставе балюча адчувалася нястача карты Беларусі й добрае інфармацыі ў ангельскай мове.



***Беларуская сыботняя школа ў Клійлендзе – 35 вучняў, 7 настаўнікаў. Школа мае 4 клясы. Выкладаюцца наступныя прадметы: беларуская мова, рэлігія, гісторыя Беларусі, народныя танцы й сьпевы.***

### New Jersey Branch of BYAA

– *November 20, 1966*: At our annual elections, held in the parish hall of the St. Mary of Zyrovicy church, the following committee was elected for the term 1966–1967:
*Alla Losik* – President.
*Helen Kazura* – Vice President.
*Alina Lysiuk* – Secretary.
*Mike Karanieuski* – Treasurer.
*Gerda Toth* – Cultural Affairs Officer.

– *January 7, 1967*: During this holiday season, our carolling group once again brought the traditional Christmas songs to many Byelorus-



*BYAA carolling group from New Jersey.* 1st row, from left to right: *Ludmila Rusak, Ira Silvanovich, Lena Silvanovich, Mike Schwed, Alherd Kazura, Tony Silvanovich.*
2nd row, from left to right: *Tamara Stahanovich, Helen Kazura, Julian Dubiaha, Nick Schwed, Alex Chorowiec.*
3rd row, from left to right: *Gene Lysiuk, Alex Stahanovich.*




*Беларуская моладзь на выстаўцы з нагоды "Дня Грамадзян" у Кліўлендзе. Дзяжураць: Маруся й Зося Каваленкі, Міхась Гасьцееў.*

## УВАГА!

Ужо за некалькі тыдняў выйдуць ноты для акардыёну – "РОДНЫЯ МАТЫВЫ". Выданьне зьмяшчае 60 беларускіх песьняў і танцаў, апрацаваных для акардыёну праф. М. Куліковічам. Уся вокладка пакрытая нацыянальным арнамэнтам.

Ветліва просім усё беларускае грамадзтва пасылаць замаўленьні. Гэтым дасьцё магчымасьць выдаваць далейшыя песенькі. Таксама просім разьлічыцца за папярэднія выданьні.

Просім зварачацца на адрыс:

Mr. W. Duniec
3444 Marvin Ave.
Cleveland 9, Ohio.

## New Jersey Branch of BYAA

sian homes. We take this opportunity to thank all those people who have welcomed us so warmly.

– *January 8, 1967*: At a Christmas party sponsored by the Church Committee, the Byelorussian-American Association, and the BYAA, our dramatic club put on a "Nativity" show and sang carols to add to the joy of Christmas.

– *February 25, 1967*: Our branch is pleased to announce that six new members have joined our organization. They are: *Irene and George Azarko, Alex Chorowiec, Nick Labowicz, and Tamara and Alex Stahanovich.*

– *March 6, 1967: Alla Losik* and *Anna Stoma*, together with several members of the Byelorussian-American Association, have had the honor of obtaining the March 25 Proclamation from Governor Richard J. Hughes.

– *March 19, 1967*: During the Byelorussian Independence Day celebration at the Biltmore Hotel in New York, the New Jersey-New York folk dancing group has performed 3 dances: *Vianocki, Mikita and Kryzacok.*

# ВІТАЕМ

– Сябру *Багуслава Станкевіча* й сп-чну *Фэліцыю Крывенька* із шлюбам, які адбыўся 20-га жніўня 1966.

– Сябру *Лявона Шурака* й сп-чну *Лілю Груша* з нагоды іхнага шлюбу, які адбыўся 17-тага верасьня 1966.

– Сябру *Андрэя Лук'янчыка* з заканчэньнем студыяў электрычнае інжынерыі й здабыцьцём дыплёму бакалаўра, на Ohio University.

– *Сяргея Рагалевіча* й сп-чну *Валю Захаркевіч* з нагоды шлюбу, які мае адбыцца 20-тага мая 1967 г. ў Ню Ёрку.



*Галоўнае Кіраўніцтва Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы (ЗБМА). Зь левага боку: Міхась Каранеўскі – скарбнік, Аўген Лысюк – галоўны кіраўнік, Валянтын Гарошка – заступнік кіраўніка, Алла Лосік – сакратар, сп-ня Орса-Романо – культурна-асьветны рэфэрэнт.*



## ПЕСЬНІ

Н. Арсеньнева.

Як бяз сонца не пражыць нам,
Без начы для дню ня ўскрэснуць,
Так ня ўкорміць хлеб нас жытні,
Да яго ня даўшы песьні.
Зь песьняй жыць лягчэй на сьвеце
Нат галоднаму зь бязрадным:
І ў хаўтурнай – сонца сьвеціць,
І ў прыгоннай – плешча радасьць ...

---

Кажуць людзі, што сівою
Даўніной сьпяваць ня ўмелі.
Скрозь, бяз песьні лог травою,
А палі – брынялі сьпеляй,
І, лён сьцелячы увосень,
Ці жнучы жытцо сьпякотай,
Ці расчэсваючы косы,
Не сьпявалі, нат употай.
Ня было ў сяле дзяўчыны,
Каб ды слала ў неба голас,
Дык было яно ня сінім,
Як ня срыбным быў і колас.
Штось ня спорылася сошцы,
Штось ня спорылася й кроснам.
Былі леты – сьпека, мошка ...
Былі зімы – сівер посны ...
Ды сьпявалі птушкі ў лесе,
Як сяганьня: берасьцянкі,
І шчыглы, і дрозд пярэсты
Й салаўі, на зьмерку й ранкам ...
Дзесь тады, на аднасельлі,
Нарадзіла сына маці.
Сёмы ... Выкупала ў зельлі,
Узялася спавіваці,
А дзіця ня сьпіць, а просіць:
"Ты мне лапці дай, ня полкі.
Як пачопкі загалосяць,
Коле жаль мяне, бы голкі,
Ды й сысолкі мне ня трэба,
Ці-ж яе насьсешся ўволю?
Дай мне лепш акрайчык хлеба,
Да яго драбочак солі".
Падзівіліся у хаце,
Бабка тройчы крыж паклала,
А што зробіш? Лат на лаце,
Ды надзелі неяк малеч.
Лапці ўзяўшы за аборы,
Падкасаўшы подал, босы,
Сысунок пабег да бору,
Сінявокі і бялёсы ...
А ў бары – сукрысты чырвень
Сыпаў скрозь цяплынь і сонца.
Зелянеў на сьцежцы пырнік,
Зелянела ймхоў суконца,
І зь бярозаў, з хвойных лукаў
З круглых дупляў, спад карэньня,
Баравое – у сто зыкаў –
Заліваласяя стварэньне.
Стаў малеча ... Аж жахнуўся:
Ўсё гудзе, зьвініць, сьпявае ...
А тады – і сам, як гусьлі,
Зазьвінеў ... На зьдзіў параіў!
Паплылі ў гушчары гукі,
Паляцела ў сіню песьня ...
Задрыжэў, узьняўшы рукі,
Бор, каб чар тэй песьні стрэсьці.
Ўраз – зайгралі сьпеўна хвоі,
Узьняў бярэзьнік пераліва,
Дубу бас пакрыў, падвоіў
Гэты сьпеў ... Няўзнак, жальліва,
Зьнекуль з багны выплыў мокрай
Альт асін ... Хвошч шаснуў долам, –
Ды чысьцей, званчэй устокраць
Матчын сын выводзіў голас!
Не падолеў бор, паддаўся,
Кінуў весьці, толькі ўторыў ...
Гэтак дзіў найбольшы стаўся –
Нарадзіўся лек на гора.

---

І пайшоў адсюль па сьвеце
Звык – шукаць у песьнях рады,
Скрозь бо зь песьняй – сонца сьвеціць,
Скрозь ізь ёй – іскрыцца радасьць.
Бо бязь песьні ўжо ня жыць нам,
Не лавіць нам вецер весьні,
Не пад'есьці лустай жытняй,
Да яе ня даўшы песьні !

